ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 51 (2577)
ПЯТНІЦА
17
снежня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



На гэтым здымку — ветэран працы, старэйшы ўдзельнік мастацкай самадзейнасці саўгаса «Радянскі» Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці Андрэй Іванавіч Янкоўскі. З дзяцінства ўсім сэрцам палюбіў ён родную зямлю, яе пявучую мову, цудоўныя песні. Гэтая любоў дапамагла яму навучыцца іграць на скрыпцы, з якой усё сваё жыццё (Андрэю Іванавічу ўжо каля 70 год) ён не разлучаецца. Іграе дома для ўнукаў, на вяселлях аднавяскоўцаў, у саўгасным клубе, удзельнічае ў аглядах, конкурсах, фестывалях мастацкай самадзейнасці. Цёпла прымаюць усюды Янкоўскага. Ведаюць людзі: Андрэй Іванавіч зноў парадуе іх новай беларускай народнай песняй, якую ён, магчыма, адшукаў, а можа прыгадаў яшчэ адну песню з тых, што спявала калісьці маці. Будзеш слухаць яго песню як зачараваны і не наслухаешся, запомніш на ўсё жыццё...

І песню, і спевака.

...Спявае скрыпка ў руках старога хлебароба, а разам з ёю спявае і яго шчырае, чулае сэрца.

**Ал. ГОЛЫШ.**

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

# ПЛЕНУМ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ

У Мінску 14—15 снежня 1971 года адбыўся IV пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі.

Пленум разгледзеў наступныя пытанні:

1. Вынікі лістападаўскага (1971 г.) Пленума ЦК КПСС, трэцяй сесіі Вярхоўнага Савета СССР і задачы партыйных арганізацый рэспублікі.

2. Аб Дзяржаўным пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі БССР на 1971—1975 гады і аб Дзяржаўным плане развіцця народнай гаспадаркі БССР на 1972 год.

Аб Дзяржаўным бюджэце БССР на 1972 год і аб выкананні Дзяржаўнага бюджэту БССР за 1970 год.

3. Аб рэагаванні Мінскага абкома КПБ, Дзяржплана БССР і Міністэрства меліярацыі і воднай гаспадаркі БССР на крытычныя заўвагі і прапановы камуністаў, выказаныя ў ходзе справаздач і выбараў у партыйных арганізацыях.

З дакладам «Вынікі лістападаўскага (1971 года) Пленума ЦК КПСС, трэцяй сесіі Вярхоўнага Савета СССР і задачы партыйных арганізацый рэспублікі» выступіў кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў.

У абмеркаванні даклада прынялі ўдзел: Г. А. Крыулін — першы сакратар Магілёўскага абкома КПБ, В. А. Гваздзёў — першы сакратар Гомельскага абкома КПБ, В. І. Шарапаў — першы сакратар Мінскага гаркома КПБ, І. Ф. Мікуловіч — першы сакратар Гродзенскага абкома КПБ, А. Я. Калітка — другі сакратар Віцебскага абкома КПБ, А. А. Чарняўскі — першы сакратар Слуцкага райкома КПБ, І. Я. Навумчык — мантажніца Мінскага завода электронна-вылічальных машын імя Арджанікідзе, І. М. Бут-Гусаім — другі сакратар Брэсцкага абкома КПБ, А. В. Дзебалюк — член Ваеннага савета — начальнік палітычнага ўпраўлення ЧБВА, М. Ф. Пракапенка — сакратар Мінскага абкома КПБ, В. К. Старавойтаў — старшыня калгаса «Рассвет» імя К. П. Арлоўскага Кіраўскага раёна, М. І. Цітоў — першы сакратар Талачынскага райкома КПБ.

У заключэнне спрэчак па першым пытанні выступіў кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў.

У прынятай пастанове пленум ЦК Кампартыі Беларусі аднадушна адобрыў плённую ўнутраную і знешнепалітычную дзейнасць ЦК КПСС і яго Палітбюро, Савецкага ўрада па ажыццяўленні гістарычных рашэнняў XXIV з'езда КПСС.

Пленум ЦК КП Беларусі адобрыў пастанову лістападаўскага (1971 г.) Пленума ЦК КПСС аб міжнароднай дзейнасці ЦК КПСС пасля XXIV з'езда партыі, усе палажэнні, ацэнкі і вывады, выкладзеныя ў дакладзе таварыша Л. І. Брэжнева па гэтым пытанні. Пленум ЦК КПБ з вялікім задавальненнем адзначыў, што паслядоўнае і настойлівае ажыццяўленне Цэнтральным Камітэтам КПСС і яго Палітбюро знешнепалітычнай праграмы, намечанай XXIV з'ездам партыі, аказвае актыўнае і дабратворнае ўздзеянне на далейшае згуртаванне, умацаванне эканамічнай і абароннай магутнасці краін сацыялістычнай садружнасці, на развіццё сусветнага камуністычнага, рабочага і нацыянальна-вызваленчага руху. Мудрая ленінская знешняя палітыка КПСС і Савецкай дзяржавы знаходзіць шырокую падтрымку ў працоўных усяго свету, забяспечвае высокі міжнародны аўтарытэт нашай партыі і краіны, садзейнічае далейшаму ўмацаванню сіл сацыялізма і міру, выкрывае антынародную сутнасць імперыялізму, яго агрэсіўную ўнутраную і знешнюю палітыку.

Пленум ЦК КПБ аднадушна прыняў да няўхільнага выканання рашэнні лістападаўскага (1971 г.) Пленума ЦК КПСС, дзяржаўныя планы развіцця народнай гаспадаркі СССР на дзевятую пяцігодку і на 1972 год, зацверджаныя трэцяй сесіяй Вярхоўнага Савета СССР.

У дакладзе П. М. Машэрава і прынятай пленумам ЦК КПБ пастанове былі падведзены папярэднія вынікі выканання рэспублікай народнагаспадарчага плана першага года пяцігодкі і ў святле патрабаванняў, выкладзеных у прамове Генеральнага сакратара ЦК КПСС таварыша Л. І. Брэжнева на лістападаўскім (1971 г.) Пленуме ЦК КПСС, намечаны меры па паспяховым ажыццяўленні пяцігадовага плана і заданняў 1972 года, па далейшым павышэнні эфектыўнасці грамадскай вытворчасці на аснове паскарэння навукова-тэхнічнага прагрэсу і росту прадукцыйнасці працы.

Пленум заслухаў і абмеркаваў даклады намесніка Старшыні Савета Міністраў БССР, старшыні Дзяржплана рэспублікі П. Л. Коханава «Аб Дзяржаўным пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі БССР на 1971—1975 гады і аб Дзяржаўным плане развіцця народнай гаспадаркі БССР на 1972 год», міністра фінансаў БССР Б. І. Шацілы «Аб Дзяржаўным бюджэце БССР на 1972 год і аб выкананні Дзяржаўнага бюджэту БССР за 1970 год».

У спрэчках выступілі: М. Ф. Бародзіч — першы сакратар Гомельскага гаркома КПБ, Д. В. Цябут — старшыня Мінскага аблвыканкома, В. В. Прышчэпчык —другі сакратар Магілёўскага абкома КПБ, В. І. Беўрын — міністр мясной і малочнай прамысловасці БССР, М. С. Рубан—першы сакратар Брэсцкага райкома КПБ, М. П. Малочка — старшыня Гродзенскага аблвыканкома, А. С. Махнач — галоўны вучоны сакратар прэзідыума Акадэміі навук БССР, У. А. Багданаў — старшыня Віцебскага гарвыканкома, А. Н. Сеўчанка — рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.

Пленум адобрыў у асноўным праект Дзяржаўнага плана развіцця народнай гаспадаркі БССР на 1971—1975 гады, Дзяржаўнага плана развіцця народнай гаспадаркі рэспублікі на 1972 год, Дзяржаўнага бюджэту БССР на 1972 год і вырашыў унесці іх на разгляд сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

Пленум ЦК КПБ заслухаў і прыняў да ведама інфармацыю першага сакратара Мінскага абкома КПБ І. Я. Палякова, першага намесніка старшыні Дзяржплана рэспублікі А. П. Калошына і міністра меліярацыі і воднай гаспадаркі БССР У. І. Паўлючука аб рэагаванні на крытычныя заўвагі і прапановы камуністаў, выказаныя ў ходзе справаздач і выбараў у партыйных арганізацыях.

У прынятай пастанове па гэтым пытанні пленум ЦК КПБ абавязаў Мінскі абком КПБ, Дзяржплан БССР і Міністэрства меліярацыі і воднай гаспадаркі БССР узмацніць арганізатарскую работу і кантроль за рэалізацыяй крытычных заўваг і прапаноў камуністаў, выказаных у ходзе справаздач і выбараў у партыйных арганізацыях.

На гэтым пленум ЦК КП Беларусі закончыў сваю работу.

# ВЫВЕРАНЫМ КУРСАМ

*СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР*

16 снежня ў Мінску пачала работу другая сесія Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі восьмага склікання.

Дэпутаты і госці ўшанавалі ўставаннем памяць памёршых паміж сесіямі дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. А. Мінковіча і К. В. Арцёменкі.

Заслухаўшы даклад Мандатнай камісіі, Вярхоўны Савет аднагалосна прыняў пастанову аб прызнанні паўнамоцтваў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Ю. М. Міхневіча, А. Н. Аксёнава і С. М. Пуцылева.

Слова для даклада «Аб дзяржаўным пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі БССР на 1971—1975 гады і аб Дзяржаўным плане развіцця народнай гаспадаркі БССР на 1972 год» атрымлівае Старшыня Савета Міністраў Беларускай ССР дэпутат Ц. Я. Кісялёў.

З дакладам «Аб дзяржаўным бюджэце Беларускай ССР на 1972 год і аб выкананні Дзяржаўнага бюджэту Беларускай ССР за 1970 год» выступіў міністр фінансаў Беларускай ССР дэпутат Б. І. Шаціла.

Сесія працягвае работу.

## ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!

*За плённую літаратурную дзейнасць і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў пісьменніка Васілеўскага Іосіфа Іосіфавіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

## З ЛЮБОЎЮ ДА РАДЗІМЫ

У залах Дзяржаўнага мастацкага музея БССР адкрылася выстаўка жывапісу, графікі, малюнкаў рускіх савецкіх мастакоў Гурыя Захарава, Іларыёна Галіцына, Ігара Абросава. Мастакоў аб'ядноўвае агульная тэма — любоў да Расіі, яе прыроды, яе людзей. У іх творах — шумныя вуліцы Масквы, прасторныя палі Расіі, вясковыя краявіды.

Беларускія гледачы сустрэлі экспазіцыю з вялікай цікавасцю.

# АД КАМІТЭТА ПА ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЯХ БССР

## У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І АРХІТЭКТУРЫ

Камітэт па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры прымае творы і работы на атрыманне Дзяржаўных прэмій БССР 1972 года. На атрыманне Дзяржаўных прэмій БССР могуць выстаўляцца высокаідэйныя і высокамастацкія творы і работы ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры, выкананыя на працягу 1968—1971 гадоў. Гэтыя творы і работы выстаўляюцца не раней чым праз паўгода пасля іх апублікавання ў друку (публічнага паказу або выканання, збудавання, уводу ў эксплуатацыю).

Прадстаўленне твораў і работ да Дзяржаўных прэмій БССР праводзіцца прэзідыумам Акадэміі навук БССР, калегіямі міністэрстваў і ведамстваў БССР, творчымі саюзамі і таварыствамі, прэзідыумам Беларускага рэспубліканскага савета прафесіянальных саюзаў і рэспубліканскімі камітэтамі прафесіянальных саюзаў, ЦК ЛКСМ Беларусі, навукова-даследчымі інстытутамі, канструктарскімі і праектнымі арганізацыямі, навучальнымі ўстановамі, выдавецтвамі, рэдакцыйнымі калегіямі газет і часопісаў, мастацкімі саветамі тэатраў і музычных калектываў, рэспубліканскімі і абласнымі бібліятэкамі, сходамі калектываў прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, калгасаў і саўгасаў.

Творы і работы прымаюцца да 1 ліпеня 1972 года.

Прадстаўляемыя творы і работы разам з дакументамі накіроўваць па адрасе: г. Мінск, вул. Акадэмічная, 15-а, БелСЭ, Камітэт па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры.

СТО РАДКОЎ з рэдакцыі

# ПАГАВОРЫМ ПРА РЭПУТАЦЫЮ

ПРА ЯЕ рознае гавораць. І жартам, і сур'ёзна. «Рэпутацыя — не падэшва, да халяў не падшыеш», — можна пачуць і такое з вуснаў цыніка. Фігара ў адказ на дакор графа Альмавівы аднойчы гаворыць так: маўляў, чалавек часцей за ўсё бывае лепшым за сваю рэпутацыю, таму звяртаць на яе выключную ўвагу, мабыць, і не варта, выносячы прысуд яго асобе...

А ці так гэта! Творчыя работнікі, калі яны прадстаюць перад публікай, не могуць не думаць пра высокую годнасць савецкага мастака, спадзявацца на тое, што поспех і толькі поспех самога выступлення вызначае рэпутацыю артыста,—нельга! Ёсць этычныя нормы паводзін, і яны ў мастацтве маюць далёка не другараднае значэнне. Хочацца нагадаць адзін з пунктаў этычных правіл, якія выпрацоўваў вялікі Станіслаўскі. Што парушае нармальную атмасферу творчасці! «Разбэшчанасць, карты, п'янства, жанчыны, нажыва (ацэнка сябе на грошы са славалюбства), маральная і знешняя самазадаволенасць, пошлы шык і непамернасць патрэб, здрада ўсім этычным правілам, якія нібыта скоўваюць свабоду творчасці, а на самой справе стрымліваюць самапакланенне і прымушаюць працаваць. Услаўленне свайго парыву і натхнення...» Гэта і ёсць атмасфера, у якой магчымыя і багема, і пагардлівыя адносіны да сваіх абавязкаў перад грамадствам, перад тымі, каму адрасуецца мастацтва.

Чаму, бывае, часам мы вымушаны нагадваць такія, даўно ўсім вядомыя ісціны! Ды не сакрэт жа, што факты парушэння этычных норм яшчэ здараюцца. Крыўдна і балюча было чытаць нумар 287-ы «Комсомольской правды», дзе з абурэннем пісалася пра выступленне ансамбля «Песняры», артысты якога сваімі беспардоннымі паводзінамі на сцэне абразілі волгаградскіх гледачоў. Нататка так і называлася — «Скандал перад мікрафонам». Аказваецца, «Песняры», даведаўшыся, што іх выступленне будзе здымацца на стужку Волгаградскай студыяй тэлебачання, вуснамі свайго кіраўніка заявілі: «Бясплатна здымацца не маем намеру». Яны фактычна патрабавалі «грошы на бочку». Перапынілі выступленне, абарвалі кабель і сапсавалі мікрафон, каб не даць падрыхтаванай апаратуры ўступіць у дзеянне. Адзін з калектыўных лістоў волгаградцаў падкрэслівае, што ў маладога артыстычнага калектыву, мабыць, закружылася галава ад поспехаў, але папулярнасць сярод слухачоў такімі паводзінамі лёгка і згубіць.

Давайце паспрабуем разабрацца ў здарэнні спакойна. Мабыць, з тым, што прафесійныя артысты маюць права на аплату свайго запісанага на стужку выступлення, ніхто спрачацца не будзе. Хоць, шчыра кажучы, дамовіцца пра такую аплату Беларуская філармонія і адміністратар ансамбля «Песняры» маглі загадзя, а не пачынаць перагаворы літаральна пры гледачах. Больш таго, нават калі б Волгаградская студыя спакойна зрабіла тэлерэпартаж з канцэрта і потым паказала яго шырокай аўдыторыі, адміністрацыя філармоніі мела б магчымасць, у адпаведнасці з правіламі аплаты такой формы трансляцыі канцэртаў, спагнаць належную суму для ганарару спевакам. Або, наадварот, растлумачыць артыстам, што ў дадзеным выпадку ганарар ім не належыць. Яшчэ больш важна цяпер рашуча сказаць маладому ансамблю прыкладна так: «Песняры», зразумела, здольныя артысты, але ж навошта скандаліць!..

Ёсць і яшчэ аспект у гэтай гісторыі. Відаць, у філарманічных калектывах не вядзецца прапаганда юрыдычных ведаў. Між тым, цяпер такая прапаганда прызнана патрэбнай і карыснай нават для вучняў сярэдняй школы. Артыст таксама павінен добра ведаць свае юрыдычныя правы і абавязкі. Каб не «вырываць» рублі любым спосабам, а дамагацца адпаведнай аплаты свайго выступлення паводле існуючых правілаў. Дык жа тыя правілы ім хоць бы прачыталі ўголас і пракаменціравалі! Не варта ніколі ламаць мікрафоны і разбіваць аб'ектывы кінакамер, бо ёсць у нашых законах пункты, якія прадугледжваюць спагнанне заробленых вамі, таварышы артысты, ганарараў.

Толькі давайце па-сяброўску падумаем, ці абавязкова было «Песнярам» у горадзе-героі так настойваць, каб за кожную песню, якую яны спявалі, на іх рахунку з'яўляўся рубель! Не збяднеў бы ансамбль і зрабіўшы падарунак слухачам Волгаградскай вобласці, калі б зняўся на стужцы і пакінуў там, у гарадах і вёсках над Волгай, крылатую песню Беларусі. Не, не збяднеў бы!

Няўжо іх не хвалюе тое, што цяпер у гаворцы пра «Песняроў», хочаш ці не хочаш таго, падумаеш або скажаш з сумам і крыўдай: гэта тыя, што скандалілі перад мікрафонам у Волгаградзе... Рэпутацыя сапсавана. Мабыць, не на дзень і не на два.

Беспрэцэдэнтны выпадак усхваляваў—і не мог не ўсхваляваць! — творчую грамадскасць рэспублікі. Паводзіны артыста ў жыцці і на сцэне адкрыты тысячам вачэй. Забываць пра гэта нельга ні на хвіліну. Шкада, «Песняры» забылі і тым дазваляюць многім думаць, што ў калектыве пасля заслужаных поспехаў пераcталі лічыцца з этычнымі нормамі.



Мікола
**ГРОДНЕЎ**



# САКРАТАР

АПАВЯДАННЕ

Яшчэ ўчора Максіму Доўбіку то станавілася горача — ён гатовы быў скінуць з сябе пінжак, кашулю, то яго наскрозь праціналі дрыжыкі, несупраць быў, каб і кажухом ухутацца. Учора ён і падумаў яшчэ ці не лашчыцца да яго трасца якая, але стараўся не зважаць ні на што. А сёння на аўтобусным вакзале усё абвяла ў яго — і ногі, і рукі. Да таго яшчэ зачасціў кашаль і, галоўнае, пасмяглі губы — гэта першая прыкмета (ён сябе добра ведаў), што падскочыла тэмпература. Але і цяпер духам не падаў, не інакш скразняком дзе прахапіла. Дзіва што! Выбраўся ён на якія тры дні. Ці далёка, думаў, той Полацк. Разлічваў, што дзень—да Полацка, дзень у Марчанкі, на трэці спадзяваўся вярнуцца дадому. Ажно калясіць вось ужо шостыя суткі і, прызнацца, пакуль што нічога не выездзіў. Марчанка адразу сказаў: у яго атрадзе не было пятнаццацігадовай Ларысы Аскалёнак, не помніць такога прозвішча, аднак параіў, што на ўсякі выпадак варта было б звярнуцца да Азёрнага — менавіта, у яго былі партызаны камсамольскага і нават піянерскага ўзросту.

Хоць да Азёрнага амаль суткі язды — ён жыў ля Гродна — аднак Максім Доўбік доўга не разважаў, паехаў. Той развёў рукамі, паспачуваў Доўбіку. «Аднак, — пачухаўшы патыліцу, сказаў: — ты ў Ляшчэні спытай, ён быў разведчыкам, а жыве недзе ў Вільнюсе». І ад Ляшчэні нічога пэўнага не дабіўся. Праўда, на развітанне той назваў прозвішча Лукшы, але дакладна не ведаў, ці жывы ён. У руку яму тады собіла асколкам. Трэба было ампутаваць яе, гангрэна якраз пачалася, а тут блакада. Да таго яшчэ Ляшчэня помніў такі факт: калі два атрады, Марчанкі і Азёрнага, рыхтаваліся да штурму Мікашэвіцкага гарнізона, ён паслаў быў Лукшу разведаць пасты. Лукша заданне, вядома, выканаў, а праз колькі дзён, калі гарнізон быў ліквідаваны, неяк за абедам шчыра прызнаўся: калі б не адна смаркачка, толку ён ў тых пастах не дабіўся б. А вось хто тая смаркачка была — Аскалёнак ці яшчэ хто — Ляшчэня не ведаў. Дакладна не ведаў і адрас Лукшы. Спачатку назваў вёску Баронічы, недалёка ад Нерачы, а калі Доўбік развітаўся і выйшаў на вуліцу, аклікнуў яго: «А можа думаецца мне, не з Бароніч Лукша, — Ляшчэня разводзіў рукамі і ціснуў плячыма, — можа з Чыжоў ён, што за Мінскам, а можа і зусім з Хоцімска, хто яго ведае — столькі гадоў прайшло. — І пастаяўшы крыху, дадаў: — Калі жывы той Лукша, вось толькі Сцяпан ён ці Станіслаў, таксама не помню, а калі захочаш знайсці, знойдзеш».

Дасюль Доўбіка вялі словы Ляшчэні, вялі і не выходзілі з галавы: «Захочаш знайсці, знойдзеш». Цяпер яму хацелася адно — прылегчы. Нездаровілася — гэтак размарыла яго. Ён нагледзеў вольнае месца на лаўцы, прысеў.

Як на кожным вакзале — хай гэта вялікі чыгуначны ці малы аўтобусны — заўсёды тлумна. Людзі тоўпяцца ля касы, спяшаюцца, едуць, прыязджаюць. Нехта некага праводзіць, нехта некага сустракае. А яго, Доўбіка, бадай, даўно шукаюць. Дома сказаў жонцы, што з'ездзіць у Полацк праведаць колішняга свайго аднапалчаніна Марчанку, хоць Кацярына ўпершыню чула гэтае прозвішча, а старшыню калгаса Мяжэннага папярэдзіў, што адлучаецца на якія пару дзён па справах. Меўся быць дома яшчэ ў аўторак. А сёння... Доўбік аж перасмыкнуў плячыма. Якраз сёння, — а такое, вядома, здараецца не часта, — у калгасе выязны пленум райкома партыі. Калі б меліся спавядаць за якія грахі, а то цэлы год пісалі ў газетах аб актыўнасці і адказнасці камуністаў у «Сейбіце», не раз запрашалі і яго, Доўбіка, у раён дзяліцца вопытам, потым два месяцы камісія райкома вывучала стыль і работу партыйнай арганізацыі. Нарэшце вырашылі правесці пленум на месцы, паказаць усёй арганізацыі раёна, як жывуць і з якой аддачай працуюць камуністы ў калгасе. І вось — тут ясна — у Навасёлкі з'ехалася багата людзей. Многія, бадай, збіраюцца пагутарыць з сакратаром парткома, ды яго і першае выступленне. Можа, хто і спадзяецца яшчэ, што вось-вось паявіцца Доўбік — не можа быць у яго сёння больш важнай справы, чым пленум. А таго не ведаюць, што зараз ён, недзе за трыста кіламетраў ад дома чухаецца на вакзале і нават не ведае: паддасца немачы, якая хапае яго, ці ўсё ж адолее яе.

А Кацярына, нават сакратар райкома, Мяжэнны ды ўсе родныя і блізкія тым часам і папраўдзе трывожыліся наогул за яго жыццё — куды мог падзецца чалавек, калі добра ведаў, што сёння пленум.

Усё гэта разумеў Доўбік і сам трывожыўся. Добра, калі што праясніць у Лукшы, а калі... Тым больш не ведае, ці ўцалеў ён ад той гангрэны. Як тады апраўдацца хоць бы перад самім сабой? Што перад сабой — ён інакш зрабіць не мог. А вось ці зразумеюць яго людзі. Ды, урэшце, пазваніў бы, папярэдзіў, што затрымліваецца па справе Аскалёнак. Ну, а цяпер падумаў, упікаць сябе, каяцца — позна. Да Бароніч кіламетраў якіх трыццаць. Вось толькі калі аўтобус пойдзе?

Спачатку ён дастаў свой кашалёк і палічыў апошнія рублі — засталося толькі даехаць дадому. «А што, калі б... — нейкі момант ён сядзеў панура, потым пачаў разважаць уголас.—А што, калі вярнуцца. Няма грошай да Бароніч. — Далей абставіны падказалі, здавалася, самае што ні ёсць найлепшае выйсце: — Наняць таксі, пазваніць у Навасёлкі, што выязджаю, з таксістам, канечне разлічыцца дома, — якраз можа б яшчэ і на пленум трапіў». Вядома, яго ніхто не стаў бы ўпікаць, што не пабыў у Бароніча́х. Не хапіла грошай на білет і не пабыў. Нават Ларыса Аскалёнак, калі заўтра сустрэнецца ля школы — яна працуе настаўніцай — са шчырай прыязню павітае яго добрай раніцай, павітае і даверліва зірне яму ў вочы. І ён, вядома, не адвернецца. А чаго ж ? Толькі першае, што яму цюкне ў галаву— не хапіла тады грошай з'ездзіць у Баронічы. Перад высокім начальствам можна будзе апраўдацца, што ён столькі гойсаў па свеце — у яго нават білеты захаваліся. Ён верыў Ларысе Антонаўне і ездзіў, трэба будзе і яшчэ паедзе, а вось урэшце ці апраўдаецца калі перад самім сабой? Кожны раз — гэта можна сказаць загадзя — не, не, ды ўпікне сябе, што змаладушнічаў тады на вакзале — з-за якіх пяцідзесяці капеек не пабыў у Лукшы.

Нарэшце ён падышоў да касы і, перш чым падаць на білет, спытаў, ці скора будзе аўтобус на Баронічы?

— У сем вечара,—з маленькага акенца пачуў прыглушаны жаночы голас.

— Калі, калі? — яму не верылася, што так позна.

Вось табе і на... А сёмай вечара. Доўбік зірнуў па гадзіннік — было недзе каля адзінаццаці. На гэты раз, мабыць, як ніколі, пашкадаваў часу — столькі яшчэ чакаць. А тут, як на зло, гняло горкае прадчуванне, што не сёння-заўтра ды яшчэ ў дарозе ён канчаткова выматае свае сілы — гэтак ён не шкадуе сябе, не беражэ здароўя — і, чаго добрага, папросіцца ў каго прылегчы. Іншы пайшоў бы да доктара, сказаў: «Усё, здаўся», а ён пнецца яшчэ ў касу і шкадуе, што многа чакаць аўтобуса. «Эх, Доўбік, Доўбік...» — у яго голасе чуўся дакор, было і спачуванне. Яму нельга прастуджвацца, а калі часам заўважыў што якое, трэба было хутчэй класціся ў пасцель. З прастрэленым лёгкім ды яшчэ з залечанымі сухотамі рызыкаваць у дарозе небяспечна.

Сваю немач Доўбік ведаў, ведаў і заўсёды, як мог, бярог сябе. На гэты раз здавацца зацятай хваробе, а тым больш сярод дарогі, не хацеў і не мог. Яго пакуль мучыла толькі адно: няўжо дарэмна ён столькі скалясіў, няўжо ні на каго са сведкаў не натрапіць. Але дарма, што з тае зімы, калі Ларыса Аскалёнак, па яе словах, была сувязной партызанскага атрада, мінула каля трыццаці год.

Магчыма ён з'ездзіць у Баронічы, у Чыжы, пабудзе ў Хоцімску, магчыма Лукшы няма ўжо— усё магчыма, аднак ні за што іншае не возьмецца, пакуль не раскрые былую таямніцу. Не можа быць, каб усё, што напісала Аскалёнак у сваёй аўтабіяграфіі, зрабіла дзеля форсу. Не можа быць. Ну, а калі...

На нейкі момант Доўбік аблакаціўся на калені, вочы прыкрыў далоняй: «Ларыса, Ларыса Антонаўна ..»

...Яе не чулі, хоць на адкрытым партыйным сходзе і было людна. Валодзька Гаманкоў — ён быў старшынёй сходу — перад тым, як паставіць на галасаванне кандыдатуру Ларысы Антонаўны аб прыёме ў партыю, зачытаў афіцыйны адказ з архіва Цэнтральнага штаба партызанскага руху, што Аскалёнак Л. А. не значыцца ў спісах народных мсціўцаў.

— Не значыцца, таварышы, — слова «не значыцца» ён вымавіў з непрыязню, як бы сказаў, хоць гэта было ўжо ясна, што ў аўтабіяграфіі напісана адно — не шкадавала жыцця, у ліхую гадзіну была наперадзе, а на самай справе, вось факт, дакумент — не значыцца. Каму верыць? Гэтаму лістку яе аўтабіяграфіі ці дакументу?

У зале спачатку ўсе прытаіліся — кожны не мог адразу пагадзіцца з нязвыклай навіной, з той думкай, што Аскалёнак, тая Аскалёнак, пра якую пісалі ў газетах, якую хвалілі амаль на ўсіх сходах, — не тая, зусім не тая, за якую яе прымалі. Потым у зале неяк усе разам загаманілі.

Слова ўзяў Доўбік, ён сказаў:

— Сапраўды, ставіць на галасаванне, каб прыняць ці не Аскалёнак кандыдатам у члены партыі, паколькі ёсць такі дакумент, мы не маем права. Была Аскалёнак тады звязана з партызанамі ці не — трэба праверыць. А як гэта зрабіць... Можа ў каго будуць якія прапановы? — Калі ў зале стала ціха, Доўбік выказаў сваю прапанову: — Паколькі я даваў рэкамендацыю, дазвольце гэта зрабіць мне.

Пярэчанняў не было.

Пасля сходу, калі ўсе разышліся, у зале засталася адна Ларыса Антонаўна. Да яе ніхто не падышоў. І Доўбік тады не падышоў. Не ведаў, што гаварыць ёй: суцяшаць, абнадзейваць, чымсьці ўпікнуць — навошта ёй была чужая слава? Але баяўся пакрыўдзіць, больш таго, зняважыць — а раптам усё не так, што напісана ў адносіне з архіва.

Жыццё Ларысу не песціла. Яна дачка партыйнага работніка. Вайна застала яе ў Воранаве. Назаўтра бацька, Антон Аскалёнак, апрануўшы вайсковую форму, развітаўся з сям'ёй — пайшоў з часцямі Чырвонай Арміі, а маці, Соф'я Трафімаўна, засталася з трыма дзяцьмі — яна, Ларыса, была старэйшая, малодшыя Дзіма і Гена. У Воранаве з першага дня вайны стала трывожна. Маці, як дэпутату гарадскога Савета, прапанавалі дзяжурыць на тэлеграфе. Яна ўзяла з сабою дзяцей, узяла і вінтоўку, з якой, прызнацца, яшчэ добра не ўмела страляць, — і на пост. Там, на пасту, яна і сустрэла фашыстаў. Адцягнула была затвор, каб страляць, нават прыцэлілася, але падумала: што з таго? У абойме ўсяго пяць патронаў, а ў яе за плячыма трое дзяцей.

Праз колькі дзён яны сабралі якія пажыткі і, дай бог ногі, на ўсход, у Самацэвічы — там жыла бабуся. Недзе ў глыбокую восень, галодныя і знясіленыя, яны дабраліся на бацькаўшчыну. У бабусі хапала бульбы, ды і карову яшчэ не запусціла. Малыя крыху акрыялі. У Ларысы мінулася «курыная слепата». А тут на парог Атрошчанка. Той Атрошчанка, помніла маці, якога да вайны за п'янку адлучылі ад школы.

«Чаго б гэта ён? — здзівіліся ў сям'і. — Няўжо клянчыць гарэлкі?»

Атрошчанка быў на дзіва цвярозы, надзвычай ветлівы і далікатны. Ён асабіста павітаў маці, пацалаваў ёй руку, пацікавіўся здароўем, а заадно і пахваліўся, што яму ў камендатуры даверылі важную справу — узначаліць Самацэвіцкую школу.

— Адзін, вядома, у полі не воін, — сказаў Атрошчанка, — вось я і прыйшоў да цябе, Соф'я Трафімаўна, каб і ты падтрымала «новы парадак».

Яна рашуча і прама заявіла:

— Не, ворагу служыць не буду.

Як ні ўгаворваў яе Атрошчанка, абяцаў жалаванне, паёк на яе і на дзяцей, а яна сваё: не і не! Тады ён грозна насупіўся:

— Як гэта ты сказала: ворагу служыць не будзеш? Хто гэта вораг табе?

Маці не стала з ім больш гаварыць, паказала на парог. Нарэшце ён дастаў з кішэні паперу і пад слупком — у слупок былі перапісаны прозвішчы самацэвіцкіх камуністаў — надрапаў дрыжачай рукой: «Аскалёнак С. Т.» — і насупраць прозвішча паставіў крыжык.

— Ведаеш, што гэта такое? — з прыкрай ліслівай усмешкай спытаў ён. І не дачакаўшыся адказу, буркнуў: — Капцы.

У тую ноч маці не было дома. Яна пайшла да чырвонаармейцаў, што засталіся ў лесе. Якраз напаткала сакратара райкома Паўла Клінцова. Расказала яму ўсё, а праз дзень ці праз два да Самацэвіч дайшла навіна: недзе пад Маластоўкай перанялі Атрошчанку трое ўзброеных. Звязалі яму рукі і пад канвоем павялі ў лес. Аказалася, што спіс з тымі крыжыкамі, на шчасце, не трапіў у нямецкую паліцыю.

А потым цяжкія гады няволі, барацьба. І вось верасень сорак трэцяга года. Часці Савецкай Арміі вызвалілі Самацэвічы. Праз месяц прыйшоў ліст ад бацькі. А неўзабаве маці атрымала ад яго грашовы перавод. У тую ноч Дзімку нават прысніўся сон: здаецца, татка прынёс вялікі бохан хлеба, ўсе паселі за стол — а есці... А як хацелася кожнаму есці, — але маці за той хлеб ды за дзверы, кажа: «Няхай хлеб к другому разу». Так і было. Маці па пошце ўсе бацькавы грошы перавяла на будаўніцтва танкавай калоны.

Праз колькі часу са Стаўкі Галоўнакамандуючага на імя маці прыйшла тэлеграма са словамі шчырай удзячнасці.

Дзіма, гледзячы на тую тэлеграму, якую доўга трымала ў руках маці, неяк стала і па-мужчынску разважаў:

— А што, можа і добра, што аддалі на танк грошы. Хутчэй і вайна кончыцца. І татка хутчэй вернецца.

Праўда, пасля вайны адразу прыйшоў і татка, але ненадоўга. Год які пабыў дома і памёр — у яго на назе ўсё не гаілася рана. А зусім нядаўна і маці памерла. Пра ўсё гэта неяк расказвала парторгу Ларыса Антонаўна.

«Дык як жа яна можа быць няшчырая?» — не мог зразумець Доўбік. Таму назаўтра, пасля сходу, ён адразу і паехаў да Марчанкі. Марчанка, помніў Доўбік, партызаніў на тэрыторыі Віцебшчыны.

Нарэшце Доўбік выйшаў на дарогу, каб даехаць да Каганца на спадарожнай машыне, а там да Бароніч — ён добра ведаў тыя мясціны — застанецца якіх кіламетраў шаснаццаць, тым больш — знаёмым бароніцкім лесам.

Дарогі лесам, на дзіва, амаль не было. Між стромкіх елак і кучаравых бяроз застаўся толькі вузкі віхлясты праход і той апчаціняўся сіўцом і ядлоўцам. А некалі, пэўна, гадоў дзесяць таму назад, як і спакон веку, дарога тут была бойкая. З Бароніч у Каганец хоць не блізкі свет—толькі лесам трынаццаць кіламетраў — штодня снавалі людзі. Хто пехам ці на веласіпедзе, зганяючы з сябе сем патоў, дабіраўся ў каганецкую аптэку ці ў магазіны, а выхаднымі днямі з усялякай жыўнасцю з Бароніч кіраваў цэлы абоз на рынак. Дарога, вядома, не гуляла. Цяпер жа, калі з Бароніч пачаў курсіраваць у горад пасажырскі аўтобус, Каганец ад Бароніч застаўся ўбаку. Усе зачасцілі ў горад. Там бальніца, аптэка, раённы аддзел сацыяльнага забеспячэння, там багацейшыя і магазіны.

Аднак, хоць бы і ведаў Доўбік, што дарогі з Каганца на Бароніч не стала — усё роўна пайшоў бы лесам.

За свае гады ён многа прайшоў дарог. Гразкіх і пыльных. Даліся ў знакі ваенныя дарогі. Даставалася на моры. Дасталося яму і на сушы. Першы раз — у Латвіі, калі з усяго стралковага ўзвода іх уцалела зусім мала — тады ён пад танк шпурнуў звязку гранат. Апрытомнеў у шпіталі. Праз які месяц ачухаўся ад кантузіі і зноў на перадавую. Другі раз перапала недзе пад Кёнігсбергам. Аднак яго вогненныя вёрсты не скончыліся і пасля вайны. У сорак сёмым, у складзе асобага атрада, ён прыбыў вось у гэты Бароніцкі лес. Тут прытаіліся былі недабітыя нацыяналістычныя банды. На яго долю выпала блакіраваць атамана Руткевіча.

Больш месяца давялося высочваць бандытаў. Вырашана было—спачатку ўзяць атамана, а калі не ўдалося, мусілі блакіраваць ўсю банду.

У перастрэлцы яго параніла. Ён хапіўся за грудзі, падумаў — усё, кончылася яго дарога назаўсёды. Куля прашыла лёгкае. Але сэрца жыло.

Цяпер Доўбік мог бы знайсці тое месца — гэта недзе пад Стрыжамі, дзе цячэ Бараўнянка і растуць стромкія сосны. Дакладней, раслі. Пасля шпіталя ён прыязджаў глядзець тыя бліндажы і збіраў падасінавікі пад тымі соснамі. На гэты раз — хоць з тае вясны мінула больш дваццаці год — ён не пайшоў у Стрыжы. Часу было мала, здароўе падводзіла, не хацелася вярэдзіць душу. Ды і кашаль пачаў дабіваць. А ісці яшчэ недзе кіламетраў шэсць.

Дзень быў асенні, але сонечны, у лесе яшчэ дацвітаў верас і бялелі позния краскі. Доўбік мусіў адпачыць — ён прысеў на ўгрэве. Спачатку аблакаціўся на локаць, а потым і прылёг. Па целе прабегла звыклая млявасць, і неўзабаве вочы сталі зліпацца, быццам іх нехта намазаў мёдам. Але заснуць баяўся. Не таму, што бярог кожную хвіліну — баяўся сырой зямлі. Праз нейкі час ён адчуў прыліў бадзёрасці і ўспомніў: «Калі вы заўважыце, што я дужа хворы і мала надзеі на маё выздараўленне, аднясіце мяне на луг, і вы ўбачыце, што мне зноў стане хораша». Так гаварыў сваім сябрам хворы Жан Жак Русо. Сапраўды, як ні дзіўна — луг трохі вярнуў бадзёрасці ці сама прыйшла — але адчуў сябе Доўбік намнога здаравей. І дыхаць стала лягчэй, і ногі палягчэлі.

Сонца было якраз на поўдні. Яшчэ якую гадзіну хады, і ён у Бароніч.

Так і было. Калі яму паказалі хату Станіслава Лукшы, пазыўныя «Маяка» з рупара, што вісеў у Бароніч на тэлеграфным слупе, абвясцілі роўна тры гадзіны дня.

Доўбік спачатку пастаяў ля варот — спадзяваўся, калі ў двары адгукнецца сабака, то можа выйдзе на ганак гаспадар. Аднак было толькі чутно, як сакаталі куры. Тады ён зайшоў у хату. Перш чым пераступіць парог, падзеньдобрыўся, і, не пачуўшы нічога ў адказ, кашлянуў назнарок раз, другі, ды так гучна, што, здаецца, калі б у хаце быў глуханямы і той азваўся б. Нарэшце здалося, што за перагародкай нехта храпе. Доўбік адхінуў штору. На тапчане ў куфайцы і ботах спаў чалавек. Ён ляжаў вольна, шырока раскінуўшы ногі. Левы рукаў у яго быў пусты. Доўбік здагадаўся, што гэта гаспадар, а вось будзіць неяк не адважыўся. Вядома, лепш было б, каб сам прачнуўся. Толькі ці скора гэта будзе? Доўбік пахадзіў, пастаяў. Тады мусіў уключыць прыёмнік. Адразу ціха, потым на ўсю моц. Ад музыкі стол задрыжаў, шыбы ў вокнах звінелі, а Лукшы хоць бы што, храпе на ўсе застаўкі. Нарэшце Доўбік выключыў прыёмнік і трэба ж такому — той адразу прачнуўся.

— Добры дзень, — павітаў яго Доўбік.

Спачатку гаспадар не мог уцяміць — дзе гэта ён, што за чалавек перад ім, а калі прыгледзеўся, адказаў:

— Правільна, дзень харошы, а я сплю.

Нейкі момант яны разглядалі адзін аднаго: Лукша ўгадваў гэтага мужчыну — яму здавалася, што недзе бачыў яго, а вось дзе і калі, ну як на тое ліха, не мог прыпомніць адразу; Доўбік уяўляў раней, што Лукша вышэй за яго на галаву, самавіты, грузны мужчына, а ён ростам якіх аршыны два, шчуплы, сутулы. Сядзіць, маўчыць і толькі лыпае адным вокам. Дасталося чалавеку за вайну — апроч рукі, яму яшчэ і ў вока собіла.

— Прывет вам ад Ляшчэні, — першы загаварыў Доўбік, бо няёмка маўчаць, і заўважыў, як у Лукшы адразу пабольшала вока. Ён пацiснуў плячыма і спытаў:

— Ад якога гэта Ляшчэні?

— Камандзіра разведкі. Ад таго, што ў Вільнюсе цяпер.

— Ад Ляшчэні.., — задумаўся Лукша. — Ад Ляшчэні... — і, правёўшы рукой па барадзе, паківаў галавой: — Ну, ну, ведаю. Ляшчэня ў нас быў. Ды гэта ж камандзір мой. — І, павесялеўшы, сказаў: — Дзякую, што не забыў. Не забыў прывітаць во, а вось жа збіраліся нашы ў Мікашэвічах на той дзень, калі было дваццаць пяць гадоў, як германца разбілі, ды, не, не пазвалі мяне... Ды вы прысядзьце во, — спахапіўся Лукша, — хоць табурэтку вазьміце.

— І ад Аскалёнак вам прывет, ад Ларысы Антонаўны, ад сувязной, партызанскай сувязной.

— Ад якой гэта Аскалёнак? — бялёсыя бровы ў Лукшы збегліся ў адзін шнурок.

— Ды ёй тады было недзе пятнаццаць ці шаснаццаць гадоў, — удакладніў Доўбік. — Ну, помніце, калі вас пасылаў Ляшчэня ў Мікашэвічы, пасты разведаць, як смаркачка адна вас выручыла.

— А-а, гэта тая, — успомніў Лукша. — Вось толькі забыўся, як яе звалі, — і тут жа бліснуў на Доўбіка вокам.

На нейкі момант у яго позірку засвяціўся загадкавы агеньчык і... адразу ж пагас.

— Не, — рашуча кіўнуў ён галавой. — Не, вы нешта не тое кажаце, вы некага блытаеце. — А калі Доўбік зноў і зноў удакладняў прозвішча, прыкметы Аскалёнак, Лукша нават адвярнуўся і з непрыязню адказаў:

— Не, вы нешта не тое. Тую ж, ну, што ў Мікашэвічах мне памагала, я сам пахаваў. І цяпер магілку знайшоў бы. А вы прывет мне ад яе... Не, вы нешта не тое. А хто ж вы будзеце, адкуль вы?

У Доўбіка, здавалася, нешта абарвалася ў сярэдзіне, і ён не пачуў, што нават спытаў у яго Лукша.

— А вы добра помніце, — выціснуў з сябе Доўбік, — што яна была Аскалёнак і што вы пахавалі яе?

— Можа пісар у штабе і помніў прозвішча, а мы яе звалі проста Пупышкай — ростам яна маленькая была, пухленькая такая — усе і звалі яе Пупышкай. А я неяк зазлаваўся раз, толькі вось чаму зазлаваўся, не помню — і назваў яе смаркачкай. Дык во, глядзі, запомніў Ляшчэня.— Памаўчаўшы, Лукша гаварыў далей. — А харошая дзяўчына была, паслухмяная і, што важна, кажу, ростам маленькая. Бывала, пашлеш куды, нюні распусціць, ідзе, румзае, мамку шукае... У Мікашэвічы тады не падступіцца было. А яна ў іхні гарнізон прашылася. Цацак ёй тады надавалі — пустых кансервавых банак. І ўсё разнюхала — дзе пасты стаяць, калі мяняюцца. Вось як было. Толькі не даў бог ёй дажыць, пакуль нашы вернуцца. Пайшлі гэта мы пасля Мікашэвіч на другі гарнізон — усю ноч тады кіпеў бой, — дык яе асколкам. — І, уздыхнуўшы, дадаў: — Ох, і палягло ў той год нашых хлопцаў. Дзіва што... Германец зняў з фронту цэлыя часці і на нас, партызан.

Толькі цяпер Доўбік прысеў на табурэтку — значыць то была не Аскалёнак. Ён аблакаціўся на калені і стаў перабіраць то на адной, то на другой руцэ пальцы — яны па чарзе хрусцелі.

— Нешта я вас не ўгадваю, — прызнаўся Лукша. — Гляджу, гляджу, бачыў недзе, а не ўгадваю.

Дзе мог бачыць яго Лукша. Хіба толькі ў сорак сёмым, калі ля Стрыжоў высочвалі банду Руткевіча. Доўбік тады заязджаў у Бароніч. Старэнькая бабка частавала яго бярозавікам. Сок быў настоены на журавінах — халодны і рэзкі. А вось у якой хаце была тая бабка — можа б стаў распытваць, нарэшце прайшоўся б па вёсцы, успомніў — аднак яму было не да колішняга квасу. Здавалася, цяпер усё сатлела ў яго на душы. І яму, хваравітаму, стомленаму, больш не хацелася гаварыць ні аб чым. А паколькі Лукша ўсё яшчэ моршчыў лоб, успамінаў, угадваў, мусіў адказаць, што ён не тутэйшы, з-пад Гомеля.

— То як жа вы дабраліся да нас? — не разумеў Лукша. — Аўтобус жа ўранні прыходзіў. Ці вас хто падвёз?

— Не, я пехам, — а каб Лукша больш не надакучваў пытаннямі, дадаў: — Хацелася лесам прайсці.

— Дык вы з дарогі, значыцца, — спахапіўся гаспадар, — то, калі ласка, да стала, — і паказаў рукой за перагародку, на кухню.

Доўбік спрабаваў адгаворвацца, што ён сыты — гэтак добра паснедаў, аднак Лукша давodзіў сваё:

— Сонца ж з абеду ўжо, а вы лесам столькі ішлі, то як жа, падсілкавацца трэба. На стале ўсё ёсць. І ў пляшцы засталося трохі. Гэта ж талака ў мяне сёння. Бульбу на сотках выкапалі. Дык бабы во тут хмяліліся за абедам і мне перапала кропля. Яны паабедалі і пайшлі сабе, а мяне залашчыла дрымота, дык я во прылёг на хвіліну.

Адзінае хацелася Доўбіку — напіцца вады. Але Лукша сілком усадзіў яго за стол, наліў паўшклянкі асобай, а вада, сказаў, яшчэ ў калодзежы.

Было не было, Доўбік глынуў гарэлкі — адкуль паявіўся апетыт. Заеў маласольным агурком, мясам, аднак хмель узяў сваё — лягонька, здаецца, закружыла ў галаве і трохі, хоць ведаў, што ненадоўга, супакоілася на душы.

Калі вылез з-за стала і падзякаваў за пачастунак, наважыўся было папрасіцца, каб перадрамаць якую гадзіну, а ўвечары на аўтобус, і гайда дадому. Але тым часам Лукша спытаў:

— Як гэта вы да мяне? З адным прыветам ад Ляшчэні ці патрэба якая ў вас?

Доўбіку і так было зразумела, што пошукі яго аказаліся марнымі, ну а паколькі сам Лукша пацікавіўся, чаго прыехаў да яго чалавек з-пад Гомеля, падсеў бліжэй і, не зважаючы на пасляабеднюю млявасць, пачаў расказваць усё па парадку: што прымусіла яго паехаць, куды ездзіў і менавіта якая патрэба прывяла сюды.

Лукша ўважліва слухаў толькі спачатку, потым прыжмурыў свае вока і загадкава чухаў вострую бародку. А калі Доўбік сказаў: «Я спадзяваўся, што тая дзяўчына, з якой вы хадзілі ў Мікашэвіцкі гарнізон, і была Аскалёнак», ён перабіў:

— Пачакайце, была і яшчэ адна дзяўчына. Была, добра помню, што была... — І раптам, быццам у яго не хапіла духу. Нейкі момант ён загадкава маўчаў, гледзячы ў адну кропку, затым, уздыхнуўшы, безнадзейна паківаў галавой. — Толькі зноў жа... Ды што і казаць. З таго пекла нас трое зацалела і то цудам: Гэта Лазарук Міша — памёр нядаўна, Косця-сібірак. Ну, а я... Мяне адтуль вывалаклі акамянелага ўжо. — Ён тыцнуў у паветра куксай левай рукі. — Во, гэтая рука была перабіта. Трое сутак ляжаў у зямлі і смурод пайшоў ад раны. А было такое. Я ж кажу, што германец тады зняў з фронту цэлыя часці і на нас. Дык вось гэта недалёка ад Мікашэвіч было. Нас недзе чалавек трыццаць разведчыкаў, калі чыгунку пераходзілі, сутыкнуліся з тым германцам. Завязалі бой. Нас пачалі ціснуць, мы адбівацца. Адбіваліся, адбіваліся ды патронаў не хапіла. Мы адышлі ў лес, яны за намі. Апынуліся ў такой нетры, хоць каравул крычы — з аднаго боку возера, а з трох яны, эсэсаўцы. Назаўтра раніцай чакаем, што пачнуць гады прачэсваць кожны куст. Усю ноч мы сабе хованкі капалі. А як толькі пачало днець, загергетала немчура. Кожны куст яны прашылі з аўтамата, кожную купінку прапаролі штыком. Тады мала каго з нашых залучылі. Мы думалі, прайшлі, прачасалі і ўсё на гэтым. А яны, гадзюкі, заселі ў лесе ажно на трое сутак. Хто чыхнуў знянацку, хто кашлянуў ненарокам — яны і давай пранюхваць, а потым яшчэ і аўчарка паявілася ў іх. А вясной якраз было, снег толькі сышоў. Зямля золкая... Уцалеў я, бо здароўе як у каня было. Мяне ля куста дзёрнам абклалі, выраўнялі, толькі прадуху кінулі. Не інакай, думалі, калі богу душу аддам, ямкі не трэба капаць і гады не будуць здзекавацца. Лазарук і Косця-сібірак таксама ўцалелі, яны на дрэвы паўзлазілі. На дрэвы, кажу...

— Ну, а дзяўчына, вы сказалі, што была яшчэ адна дзяўчына,— напомніў Доўбік.

— Ага, была, была... — падхапіў Лукша і тут жа неяк замяўся. — Сказаць, што дзяўчына, як дзяўчына, але ў атрадзе мала яе хто ведаў. Не таму, што сувязная, разведчыца была. Малалетка яна. Гэтак класаў сем ці восем да вайны кончыла. А нічога сабе з твару. Вось з-за гэтага, помню, і трапіла да нас. Паліцэйскі да яе прыставаў, замуж хацеў узяць. Тады яе маці прывяла да нас у атрад. Дзяўчына спачатку варыла нам ежу. А потым, калі мы перабраліся ў Мікашэвічы, адзін выдумшчык параіў з тае дзяўчыны хлопца зрабіць. Знайшоў ёй штаны, каптан нейкі, пастрыг — глядзім на яе: прад намі такі падшыванец, адарві ды падай. Мы гэтага «падшыванца» ды паслалі ў вёску да старасты — стараста наш чалавек быў — яна і прыносіць ёду, бінту. Ды што казаць, — далей не хацелася гаварыць Лукшу. — Куды толькі мы яе не пасылалі.

— А дзе гэта было, калі маці прывяла яе ў атрад? — зацікавіўся Доўбік.

— А было гэта недзе за Прапойскам. Партызаны толькі збіраліся тады. Клінцоў, сакратар райкома, у нас за старшага быў.

— Вось, кажаце, маці прывяла яе ў атрад.— тут Доўбік прыўзняўся. Здавалася, што ён нешта, хоць няпэўнае, але ўлавіў.

— Я ж кажу, паліцэйскі прыставаў.

— Не пра тое я. Я пытаю, маці сувязь якую мела з атрадам, ці прывяла дачку выпадкова, проста, каб схаваць яе ад таго паліцэйскага?

— Тут я вам, — Лукша пачухаў патыліцу. — тут я вам... Каб жа не зманіць... Здаецца, раней прыходзіла яна. А прыходзіла ці не на паліцэйскага скардзіцца, ці... Адно мне помніцца, што Клінцоў паслаў нас — гэта мяне і яшчэ двое, каб мы паліцэйскага таго перанялі. Ён нейкі данос ішоў рабіць у Маластоўку. Але ж той паліцэйскі, гэта я добра помню, быў у гадах ужо. І прасіўся тады, каб пашкадавалі яго дзяцей. Значыць, той паліцэйскі не мог улягаць за дачкой — яго за нешта другое перанялі... Але ж столькі гадоў прайшло, ці ж гэта ўспомніш усё.

— А ці не Атрошчанка гэта быў? — Здавалася Доўбіку, што ён ужо ўхапіўся за ланцужок.— Ці не той Атрошчанка, якога немцы прызначылі дырэктарам у Самацэвіцкую школу?

Лукша, памаўчаўшы, пацiснуў плячыма:

— Як яго там звалі — гэта ў штабе было запісана.

— А прыкметы яго помніце?

— Ну, я ж кажу, прасіўся, каб дзяцей яго пашкадавалі.

— А ў Маластоўку чаго ён ішоў?.. Можа ў паліцыю?

— Можа і ў паліцыю. Маніць не буду.

— Не на яе маці, Соф'ю Трафімаўну, ён ішоў рабіць данос у паліцыю? Ну, помніце, яна тады адмовілася працаваць настаўніцай. Ёй Атрошчанка пагражаў паліцыяй... Помніце, ён нёс тады спіс самацэвіцкіх камуністаў. Насупраць кожнага прозвішча стаяў чырвоны крыжык. І насупраць прозвішча Аскалёнак стаяў такі крыжык — гэта значыць расстрэл. А помніце, за што вы яго, Атрошчанку, расстралялі? Помніце, яго да вайны са школы выгналі, а вось немцы... Ну, хоць штонебудзь вы помніце!? — Доўбік нарэшце перайшоў на «ты». — Ты ўспомні, успомні вёску. Не з Самацэвіч была тая дзяўчына? Ну хоць трохі пакруці шарыкамі. Ну, што ты сапеш?

(Заканчэнне на 12 стар.).

Стаю за дубровай на ўскраі лугу. Родныя, дарагія сэрцу мясціны. Як дарагія яны чалавеку ў сорак гадоў, калі за плячыма нямала перажытага. У сэрцы доўга не алягае зразумелае, мусіць, кожнаму з нас пачуццё, калі мы страчаемся з мясцінамі дзяцінства і юначых гадоў, дзе запала табе ў сэрца любая рысачка. Кожны раз, адкуль бы ні вяртаўся я, з далёкіх ці блізкіх дарог, прыходжу сюды як на споведзь, як на якоесьці святое прычасце — удыхнуць, адчуць сэрцам роднае, блізкае. Яшчэ ж і «старасць з кійком», гаворачы словамі Аляксея Пысіна, далекавата, а так хочацца наведаць «... луг каля крыніц», дзе «маленства адгукнецца», дзе пачуеш «шаптанне лоз» і многае, многае іншае, дарагое сэрцу.

Над Беседдзю сцюдзёны вецер прычэсваў лозы. Шырокі, заліўны луг, агінаючы звонкі сасняк, паварочваў налева і імкнуў далёка на поўдзень. Быццам шкло, пабліскавала на паваротах халодная, звілістая рака. Над яе пясчанымі кручамі горда высяцца меднастволыя сосны і чысцюткія, бы нявесты, бярозы. А позірк бяжыць далей, выхопліваючы ўсё новыя штрыхі-рысачкі з роднага наваколля. Раптам ён спыняецца на нечым новым, нязвыклым для цябе. Гэтае новае аднак не здзіўляе, а прыемна ўражвае, цягне, вабіць да сябе.

Далёка ў лузе, за хмызамі, дзе рака крутым паваротам утварае вузкую і доўгую карму, бачу два дашчатыя буданы. Быццам то качэўнікі, якія прыпыніліся ўводдалі ад селішчаў. Для мяне, хто страчаў тут год у год лугавую цішыню, посвіст крылаў качак-мацярух ды ўнушальнае рыпенне «драча», буданы хоць і выглядалі нечым новым, але не былі і нечаканасцю. Заўважаю каля іх статак кароў, і мне адразу зразумела, хто і для чаго там, у карме. Буданы і каровы — гэта знак нашага агульнага клопату аб дарагім і патрэбным нам прадукце. Аднак, прызнаюся, для мяне буданы і каровы выглядалі тут, пасярод лясоў, па-свойму рамантычна. Не раўнуючы, сучасная буколіка. Я адчуў, як мяне цягне туды ці то цікаўнасць якая, ці то выпрацаванае прафесійнае журналісцкае чуццё даведацца: што там, хто там? Яшчэ ж мяне пацягнуў туды, у тую карму, раптоўны ўспамін.

Праз увесь луг прастую да буданоў. Іду паўз пясчаныя выспы, шырокай торнай дарогай, якая цягнецца ад дубровы праз увесь луг аж у самую карму... Вось тут у верасні сорак трэцяга, як нашы вызвалялі ад немцаў Касцюковіцкі раён, я не ішоў, а бег з Васілём, сіратой-бязбацькавічам, якога чамусьці называлі па вулічнаму «Шмайкам». Мы беглі ад лесу, згледзеўшы тыя сівыя мундзіры і шапкі з какардамі, якія замільгалі пад дубамі. Немцы займалі абарону над Беседдзю. Адзін з какардаю на шапцы гукнуў услед нам: «Цурык!» Але дзе там «цурык», нас нібы ветрам падхапіла, беглі, толькі калашыны лапаталі. Але доўга бегчы нам не дазволілі: ззаду затрашчала аўтаматная чарга. Нам здалося, што страляюць па нас, мы з Васілём пападалі і паўзком дабраліся да хмызоў. Густы жавіннік і крапіва схавалі нас, мусіць, надзейна, але нам усёроўна здавалася, што немцы вось-вось прыйдуць сюды і знойдуць нас. Стрыкаючы рукі, мы зашываліся ўсё глыбей у хмызы. З раніцы хмарыла, а папалудні вецер разагнаў хмары і зрабілася светла на лузе і нават цёпла. У хмызах пачало зверху ўграваць. Стомленыя, узрушаныя, мы паўграваліся. Спрабавалі драмаць, але сон быў трывожны, раз-пораз хто-небудзь з нас прахопліваўся і кідаўся, азіраючыся па баках, як лунацік. Падвесяліў нас самалёт. Адразу мы нават не разабраліся, што за гук паплыў над Беседдзю. Здалося, што то з лесу ідуць танкі, якіх мы не бачылі, але пра якія шмат чулі. Як раптам бачым над лугам самалёт з чырвонымі зоркамі на крылах. Наш самалёт! Ага, немчура, трымайцеся. Мы думалі, што зараз самалёт секане з кулямёта і пачне бамбіць ускрай дубровы. А ён развярнуўся і, праляцеўшы нізка над лугам, знік за Беседдзю, адкуль прыляцеў. То быў, як пасля мы здагадаліся, наш разведчык. Знік самалёт, і нам зноў зрабілася сумна, але ў сэрцы ўжо не алягала радасная надзея на хуткае вызваленне.

Ужо на змярканні дабраліся ў карму да сваіх... Вось яна тая карма. Я і не заўважыў у задуменні, як перашыбаваў луг і апынуўся ля буданоў. Статак кароў, галоў на




Мікола АЎСЕЕНКА

дзвесце, быў у загоне. Загон — вузкая карма, утвораная ракой. Спераду ад берагу да берагу відаць агароджа з дроту. Далей з трох бакоў — ніякай агароджы. За агароджу служаць крутыя берагі Беседзі. Каровы не ідуць за раку. Спакойна адпачываюць. Іх толькі што прыгналі на абедзеннае даенне.

Пахне сырадоем. Між кароў снуюць з вёдрамі даяркі. Чутна, як звонка б'ецца аб дно вядра тугі струмень малака... Вось на гэтым месцы, дзе цяпер саўгасны статак, стаялі, навязаныя лычагамі да хмызоў, сялянскія каровы. Нас, дзяцей, бацькі прыгналі да кароў, самі заставаліся ў лесе ў зямлянках. Прыгналі больш з надзеяй, калі немцы пойдуць па лесе, то каб не

# ЗНАЁМСТВЫ Ў СВЕТЛАГОРСКУ

Я ЛЮБЛЮ свой горад. За яго маладосць, за прыгожую сталасць — нядаўна яму споўнілася ўсяго дзесяць год. Зрэшты, я жыву ў гэтым горадзе — на сабе, калі гэтак можна сказаць, адчуваю і яго маладосць, і яго сталасць.

Натуральна, мне хочацца, каб пра жыццё ў маім горадзе ведалі і іншыя. Вось некалькі старонак з культурнага жыцця Светлагорска.

## РОДНАЕ Ў ФАРБАХ

Напружана выгнулася на ветры галінастая вярбінка, а далей — зззяе, сагнутая ў дугу, Бярэзіна. Непагадзь? Ва ўсякім разе, пагодліва будзе наперадзе: вунь, як прыгожа запунсовелі чароды воблакаў.

Гэта эцюд самадзейнага светлагорскага мастака Уладзіміра Юшпраха, але я пазнаю ў ім кавалачак роднай прыроды, што акружае мяне штодня, акружае і саграве кожнага светлагорца. Работы Уладзіміра ў нашым горадзе добра ведаюць і любяць. Можа таму, што сюжэты і вобразы для іх ён знаходзіць у родным горадзе, у яго ваколіцах, далёка ад дома за імі не ездзіць. Тут нарадзіўся і гэты эцюд — «Ветраны дзень».

Зусім іншы настрой дае мне сонечны вясновы разліў, які я бачу на эцюдзе іншага самадзейнага мастака — Юрыя Янкуна. Магутная паводка Бярэзіны быццам паглынула жаўтлявыя адбіткі зубчатага лесу. Жаўтлявыя палосы на вадзе вельмі хораша гармануюць з мяккай жаўцізной берагу. Такая тонкасць у колерах, такая аб'ёмнасць пейзажа!..

І яшчэ пра аднаго нашага мастака некалькі слоў. Пра Віктара Баранава. Нават у нацюрморце ён верны сваёй асноўнай тэме — расказвае пра свой горад, яго жыццё, побыт. На пярэднім плане: сіфон з вадой, кубак на спадачку, драўляная лыжка... Аднак мастак выкарыстоўвае і задні план, а там — шматпавярховыя светлыя гмахі наступаюць на драўляныя хаткі: такое відаць з любой кватэры светлагорца.

А колькі пачуцця ўклаў мастак у карціны «Будаўніцтва цэлюлозна-кардоннага камбіната», «Тут будзе палац хімікаў» і іншыя.

Можна шмат расказваць пра светлагорскіх мастакоў, можна захапляцца работамі Германа Пранішнікава, Міхала Андыкі, Мікалая Дакучаева, Сяргея Панізовіча, Ананія Ярашэўскага, Мікалая Бая. Амаль усе яны падабаюцца мне тым, што ў іх я бачу Светлагорск, яго жыццё, яго жыхароў, сённяшні і заўтрашні дзень горада.

## РАДАСНАЯ ПРЭМ'ЕРА

Афіша здзівіла светлагорцаў. Таму, што раней тут не было такога, каб самадзейныя артысты выступалі ў спектаклі па вялікай, даволі складанай п'есе.

Сустрэча адбылася ў Доме культуры энергетыкаў.

Спектакль ішоў па п'есе В. Сабко «Захавай маю тайну».

Гэта была цікавая сустрэча. Хоць на сцэне ігралі самадзейныя артысты, яны вельмі цікава, усхвалявана расказалі пра лёс Наташы Лагвінчук і тых людзей, былых франтавікоў, сярод якіх яна шукае свайго бацьку. Перад смерцю маці прызналася ёй, што недзе ў пасёлку жыве яе бацька Фёдар Каваленка, і вось перад намі ажно чатыры Фёдары Каваленкі — усе яны жывуць у пасёлку, усе былі аднапалчанамі маці. Перад намі праходзяць героі не вельмі далёкай вайны, нашы сучаснікі, людзі вялікага жыццёвага вопыту, сваіх поглядаў на жыццё. Заслуга артыстаў — слесара завода штучнага валакна Міхала Сапожнікава, настаўніка Міхала Этуса, выкладчыка фізкультуры тэхнічнага вучылішча хімікаў Георгія Хамянка і іншых,— што яны змаглі ўзвысіць пафас спектакля да значнай, вельмі актуальнай думкі: а ці не страцілі былыя франтавікі свае франтавыя вартасці, чалавечыя якасці, ці не сталі яны абыякавымі да рознага фальшу, несумленнасці, баязліўцаў?.. Думка гэтая, завостраная па-мастацку, хвалюе гледача.

Хочацца яшчэ дадаць, што паставілі спектакль слесар завода М. Сапожнікаў і работніца Дома культуры энергетыкаў А. Кузьмянкова.

## АПТЫМІСТЫ

Аднойчы сустрэў я на вуліцы Юрыя Віталевіча Лундзіна — той і расказаў мне пра новую сваю задуму:

— Разумееш, хачу стварыць агітансамбль «Аптымісты». Гучыць?.. Нам без аптымізму нельга жыць...

Ён доўга расказваў у дэталях пра сваю ідэю, пра першую праграму ансамбля, якога яшчэ не было. Усе думкі былі скіраваны на тое, каб сілаю песні, музыкі, сатырычных мініяцюр весці расказ аб сучасным чалавеку, аб моладзі, якой так многа ў нашым горадзе, аб душэўнай чысціні чалавека. У тую хвіліну я быў уражаны чутым і разам з тым успамінаў, як ён нядаўна з'явіўся ў нашым горадзе: чарнявы, молада-рухавы, пасівелы, бясконца добразычлівы. Дом культуры энергетыкаў, куды Юрый Віталевіч прыйшоў працаваць, адразу пачаў мяняцца. Раней тут вечары адпачынку бывалі толькі па святах, ды нейкія сумныя, і раптам — пачаліся «Агеньчыкі», тэматычныя вечары, адкрыўся клуб «Моладзь і час». Не было самадзейнасці, а то знайшліся і вакалісты, і танцоры, і чытальнікі. Душою гэтых вечароў стаў ён — рэжысёр, сцэнарыст, вясёлы канферансье. Нават гэтай вялізнай работы было яму як быццам мала, і ён пачаў дапамагаць калектывам мастацкай самадзейнасці завода штучнага валакна. Сам пісаў вершы пад музыку мясцовых кампазітараў, працаваў над сцэнарыямі канцэртаў.

Так — здаецца, зусім нядаўна з'явіўся Юрый Віталевіч у нашым горадзе, але яго аптымізм натхніў многіх маладых людзей, нарадзіў новых аптымістаў мастацкай самадзейнасці. І вось... Ансамбль ужо стаў пераможцам абласнога конкурсу. Ужо яго канцэртную праграму ведае кожны малады светлагорац. Ужо ў нашым горадзе палюбілі выканаўцаў Валодзю Філіпчыка, Алу Удавіхіну, Валодзю Гінзбурга, Мікалая Антончыкава і іншых.

## СЯБАР ПАЭЗІІ

— Пачытай, можа які верш і спатрэбіцца газеце? — з гэтымі словамі Іван Мікітавіч Лапцеў часта заходзіць да мяне ў рэдакцыю.

Я ахвотна чытаю. Бо загадзя ведаю — спатрэбіцца амаль усё. Асабліва цікавыя вершы Івана Мікітавіча пра прыроду.

Першыя свае вершы Лапцеў надрукаваў яшчэ ў 1929 годзе, калі займаўся на рабфаку. Іх ведалі чытачы «Чырвонай змены» і літаратурнага дадатку да Бабруйскай газеты «Камуніст».

Аднойчы я спытаў Івана Мікітавіча пра яго першае знаёмства з паэзіяй. Ён расказаў:

— Адразу ж пасля грамадзянскай вайны ў нашай вёсцы Пакалічы арганізавалі чырвоны куток. Па вечарах мы заседжваліся там, чыталі газеты і кнігі. Маёй першай кнігай у гэтым кутку была паэма Міхася Чарота «Босыя на вогнішчы». Папрасіў кнігу дадому. Прынёс. Але чытаць не было калі, бо раным-рана трэба было гнаць пасвіць вясковы статак. Кнігу ўзяў з сабою на пашу. Сагнаў статак у кусты, ды за паэму. Маці родная, як яна мне ўпадабалася! Забыў на кароў, ляжаў, уяўляў сябе босым на вогнішчы, з чырвоным сцягам... А калі апамятаўся — каровы церабілі авёс, таптапі лён.

Думаў: можа ніхто не бачыў?..

Дарма спадзяваўся на гэта. Увечары, калі гнаў статак у вёску, жанчыны вялікім натоўпам выйшлі насустрач. Расступіліся, акружылі мяне і давай сцябаць паясамі. Сцябалі і прыгаворвалі: «А вось табе за авёс! А вось табе за лянок!..»

Цяпер Іван Мікітавіч на пенсіі. Але паэзія засталася для яго самым цёплым, радасным светам.

І. КАТЛЯРОЎ.

Праўленне Саюза мастакоў БССР выказвае глыбокае спачуванне заслужанаму дзеячу мастацтваў БССР Паслядовіч Аляксандры Ануфрыеўне з прычыны смерці яе маці.

